Год выдавецтва 1. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКІ і ПАЛІТЫЧНЫ, ДВУТЫДНЁВІК.

№ 3 | 1 ЛІСТАПАДА. | 1927 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Людвісарская вуліца № 1.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА да канца года 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр, за рад. пэтыта.

## „Праваслаўнае Беларускае Дэмократычнае Аб'яднаньне“.

У гэтым нумары нашы чытачы знойдуць праграму і праэкт Статуту палітычнай партыі пад назовам: «Праваслаўна-Беларускае Дэмократычнае аб'яднаньне». Гэтая партыя створана як раз у тым дусе, аб якім пісаў у папярэднім нумары п. Васілевіч, на ліст якога досыць горача і прыхільна адклінулася беларускае грамадзянства ў лістох у Рэдакцыю.

Партыя, як відаць з яе праграммы, ідзе па таму палітычаму напрамку, які ўзяла сабе за свой кірунак і часопіс „Праваслаўная Беларусь“. Яна ставіць сабе сваей мэтай бараніць правы сялянскага і мястовага працоўнага народу і тэй інтэлігенцыі, якая ў сваей працы ідзе разам з народам адным нацыянальным шляхам, і сваей фаховасьцю дапамагае яму бараніць яго сацыянальна-палітычныя і нацыянальна-грамадзкія правы.

Уважаючы, што самым першым і самым галоўным грамадзкім правам кожнага чалавека-грамадзяніна зьяўляецца свабода выяўленьня сваіх рэлігійных пераконаньняў, — уважаючы пры гэтым і тое, што хрысьціянская вера ёсьць найважнейшая і найлепшая падстава для маральнага і культурнага разьвіцьця кожнага народу, ініцыатыўная

група ў сваей праграме ставіць у першаю чаргу пытаньне рэлігійна-царкоўнае.

Далей, пасьля рэлігійнага пытаньня ідзе пытаньне зямельнае. Падаўляючая большасьць беларускага народу складаецца з сялян, працуючых над сваей зямлёй. Зразумелая рэч, што зямельнае пытаньне павінна займаць у праграме найважнейшае мейсца.

У зямельным пытаньні, як чытачы могуць бачыць з праграмы, партыя падтрымлівае падставу: „земля працоўнаму народу, але дабаўляе: **на падставах уласнасьці**“. Гэта знача, што, кожны можа быць поўным гаспадаром свайго кавалка зямлі; мае права яго купіць, прадаць, нават аддаць у арэнду. Партыя аднак прызнае шкодным скапленьне ў адных руках вялікіх абшараў зямлі, якія могуць прывесьці да эканамічнай залежнасьці малазямелных ад абшарнікаў і стаць прычынаю эканамічнага уціску і эксплятаваньня бяднейшых клясаў. З усякімі праявамі такога абшарніцтва партыя будзе змагацца ўсімі праўнымі спосабамі.

Аб іншых пунктах праграмы ня пішам, на разе; чытачы нашы самі ў іх разьбяруцца і кожны з тых пунктаў можа стаць прадметам дыскусыі на старонках нашае часопісі.

Ініцыатыўная группа просіць грамадзян, якія цікавяцца партыяй, прысылаць свае крытычныя водгукі аб яе праграме.

Усякая паважная крытыка будзіе прынята ініцыатыўнай групай з падзякай і ўзята пад увагу для будучага агульнага з'езду партыі, які можа і змяніць некаторыя пункты праграмы.

Ініцыатыўная група горача заклікае ўсіх, хто спаўчуе праграме партыі, арганізовывацца па местах і вёсках у гурткі і адзелы згодна з апублікованым статутам для магчыма хуччэйшага скліканьня агульнага з'езду і стварэньня сталай улады партыіі.

Усе да працы!

(—) **Ініцыатыўная група.**

Рэдакцыя газэты, якая з поўным спаўчуцьцем адносіцца да праграмы партыі ПБДА, гэтым заяўляе, што часапісь „Праваслаўная Беларусь“ з гэтага нумару становіцца органам гэтае партыі.

**Рэдакцыя.**

# Праваслаўна-Беларускае Дэмократычнае А'беднаньне.

(Праграма)

## I. Рэлігія.

1. Праваслаўна-Беларускае Дэмократычнае Аб'яднаньне стаіць за бязумоўную свабоду ўсіх рэлігіяў, як у іспаведаньні веры, так роўна і ў богаслужэньні і ўсім ўнутраньнім парадку іх самаўрадаў.

2. У адносінах да праваслаўнай царквы П Б Д А стаіць за саборнае устройства яе самаўраду на падставах яе канонічнага права.

3. ПБДА ўважае за найлепшы спосаб для здейсьненьня рэлігійнай свабоды — адзяленьне царквы ад дзяржавы. Гэта аднак ня выключае магчымасьці іх узаемдзеяльнасьці, якая можа быць рэгулявана праз свабодную згоду (concordat) дзяржаўнай улады з паўнамочнымі (ад Сабору) прадстаўнікамі царквы.

4. Царква (касьцёл) павінна кары-

стацца ў дзяржаве правам уласнасьці і правам юрыдычнай асобы.

## II. Аснаўныя палітычныя засады.

5. ПБДА уважае, што правам кожнага народу ёсьць яго палітычная і культурная незалежнасьць. Згодна з гэтым ПБДА змагаецца за права беларускага народу на свабоднае самаакрэсьленьне.

6. У гэтай мэце ПБДА імкнецца да паглыбленьня нацыянальнае сьведамасьці беларускага народу шляхам арганізацыі яго культурна-палітычнага жыцьця на грунце хрысьціанска - дэмакратычных ідэалаў і беларускай народнай культуры.

7. ПБДА імкнецца да поўнай свабоды і запраўднай роўнасьці перад законам усіх нацыянальнасьцяў і будзе вясьці барацьбу з усялякімі праявамі нацыянальнага уціску.

8. ПБДА стаіць за поўную свабоду слова, друку, сходаў, арганізацыяў, таварыстваў і прафэсыянальных саюзаў.

9. Кожная нацыянальнасьць мае права карыстацца сваею роднай мовай у царкве, судах, школах і ў агульнаграмадзкім і палітычным жыцьці.

## III. Эканамічныя справы.

### а) Права ўласнасьці.

10. ПБДА уважае права ўласнасьці за падставу матэрыяльнага і культурнага разьвіцьця і цывілізацыйнага поступу кожнага народу. Аднак жа скапленьне ўласнасьці у вялікай меры ў прыватных руках ПБДА прызнае шкодным для працоўнага народу, дзеля чаго змагаецца з праявамі абшарніцтва і капіталізму.

### б) Зямля.

11. ПБДА прызнае як аснаўную засаду: зямля трудавому народу на правах уласнасьці. Партыя дамагаецца надзяленьня беззямельных і малазямельных сялян трудавой зямельнай нормай коштам дзяржавы.

12. Пры надзяленьні зямлёй партыя будзе змагацца за тое, каб усе належачыя да парцэляцыі землі на абшары Беларусі раздаваліся выключна беларускаму народу, дзеля чаго партыя будзе вясьці барацьбу з палітычнай каланізацыяй, якая імкнецца да паланізатарскіх мэтаў.

13. У мэтах разьвіцьця гаспадаркі і культуры ПБДА імкнецца да праведзеньня комасацыі і хутарскага гаспадарства на кошт дзяржаўнага скарбу.

### в) Прыродныя багацьці.

14. Лясы, воды, падземныя і іншыя багацьці, маючыя агульна грамадскае значэньне, становяць уласнасьць дзяржавы, а карыстаньне з іх рэгулюецца мяйсцовымі самаўрадамі.

### г) Адбудова.

15. У першы чарод лясы павінны быць выкарыстаны на адбудову сялянскіх гаспадаркаў, зьнішчаных вайной.

Для палепшаньня гаспадаркі сялянам павінны быць адчынены танныя крэдыты.

### д) Падаткі.

16. ПБДА дамагаецца зьлажэньня галоўнага цяжару падаткаў на найбольш заможныя клясы, дзеля чаго змагаецца за так званы прагрэсыўны падатак.

17. Даход выстарчаючы толькі на пражыцьцё, павінен быць звольнены ад падаткаў.

Прадметы першае патрэбы павінны быць звольнены ад падаткаў.

### е) Рабочае пытаньне.

18. ПБДА дамагаецца:

а) 8 гадзіннага рабочага дня, нядзельнага адпачынку, платных водпускаў,

б) забароны працы дзяцей і палепшаньня санітарных варункаў працы на фабрыках,

в) мінімума заработнай платы,

г) скарочаньня рабочага дня да 7 гадзін у прадпрыемствах, шкодных для здароўя і да 6 гадзін у суботу.

д) дзяржаўнага страхаваньня работнікаў ад хваробы, калецтва, безрабоцьця і на старасьць,

е) свабоды стачак і поўнае свабоды прафэсыянальных саюзаў,

ж) удзелу рабочых ў прыбытках,

з) выдачы безработным дапамогі ў размеры пражытачнага мінімума,

і) арганізацыі публічных работ.

### ж) Коопэрацыя.

19. ПБДА зьвяртае ўвагу на пашырэньне спажывецкай, вытворчай і крэдытнай коопэрацыя сярод сялян і работнікаў, уважаючы, што яна дае магчымасьць працоўнаму народу бара-

ніцца ад дарагавізны і спэкуляцыі, ды прывучае яго да арганізаванай самадзейнасьці. З гэтага поваду ПБДА дамагаецца для кооперацый шырокага дзяржаўнага крэдыту.

### IV. Асьвета.

20. ПБДА дамагаецца, каб пачатковае навучаньне была абавязкавым для ўсіх. Навучаньне павінна быць бязплатным і выкладацца на роднай мове.

21. Партыя дабіваецца вольнага адчыненьня прыватных школаў і права іх на ўрадавую дапамогу.

22. Для ўвядзеньня навучаньня у роднай мове павінны быць адчынены беларускія вучыцельскія сэмінарыі, гімназыі і ўнівэрсытэт.

23. Выкладаньне рэлігіі кожнага вызнаньня адбываецца абавязкова як ў школах урадавых, так і прыватных на роднай мове.

24. У мэтах пашырэньня гаспадарчай культуры ПБДА імкнецца да адчыненьня магчыма большай лічбы гаспадарчых школаў.

### V. Суд.

25. ПБДА стаіць за незалежныя суды.

26. Міравыя судзьдзі, як і лаўнікі пры іх, выбіраюцца народам.

27. Карныя палітычныя справы, падлягаючыя акружным судам, разбіраюцца присутнасьцьцю прысяжных, каторыя і выносяць прыгавар.

28. Палявыя (даразныя) суды павінны быць скасаваны.

29. У мэтах скарэйшага адпраўленьня правасудзьдзя павінна быць павялічана лічба міравых судоў і зьменьшаны судзебныя аплаты.

30. ПБДА проціў кары сьмерці.

### VI. Войска.

31. ПБДА дабіваецца скарочаньня службы ў войску і значнага зменьшаньня войска, каб такім спосабам паменьшыць ападаткаваньне насяленьня і павялічыць выдаткі на культурныя патрэбы.

32. ПБДА вядзе барацьбу з палітыкай мілітарызму і імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй.

### VII. Самаўрады, Паліцыя і адміністрацыя.

33. Усе самаўрады гмінныя павятовыя і ваяводзкія павінны выбірацца агульным галасаваньнем.

34. Самаўрады павінны быць зусім незалежнымі ад адміністрацыі і круг іх дзеяльнасьці павінен быць пашыраны.

35. Адною з важнейшых галін самаўрадавае працы павінна быць забяспечаньне сялянам і работнікам мэдыцынскае помачы, апекі над сіратамі, бездаглядными калекамі і г. д.

36. ПБДА дабіваецца каб паліцыя і ўрадоўцы без ніякіх выключэньняў за служэбныя надужыцьці адказывалі перад законам.

37. У барацьбе за дасягненьне партыйных мэтаў партыя будзе ісьці легальным шляхам, акрэсьленым у Дзяржаўнай Канстытуцыі.

## Арганізацыйны статут Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'еднаньня.

### Сябры ПБДА.

1. Сябром ПБДА можа быць кожны беларус, які прыймае праграму ПБДА і становучы гатоў працаваць на грунце гэтай праграмы.

2. Абавязкам кожнага сябра ПБДА зьяўляецца:

а) выконываць усялякія арганізацыйныя распараджэньні, атрыманыя ад партыйных уладаў, і прыймаць партыйныя становішчы, на якія будзе выбраны;

б) аплачываць партыйную складку, разьмер якой акрэсьлівае цэнтральная і мейсцовая партыйная ўлада;

в) мець партыйны білет.

3. Кожны сябра ПБДА мае права:

а) прыймаць удзел у сходах і зьездах ПБДА;

б) выбіраць і быць выбіраным на ўсе становішчы ў партыйнай арганізацыі.

4. Сябры ПБДА прыймаюцца мяйсцовай арганізацыяй або вышэйшымі партыйнымі ўладамі.

5. Ніхто з сяброў ПБДА ня можа належыць да іншых палітычных партыяў.

6. За праступкі проціў партыі, альбо плямуючыя і паніжаючыя годнасьць чалавека, сябра ПБДА можа быць часова ці зусім выключаны з партыі.

Права на часовае выключэньне маюць мяйсцовыя партыйныя улады, а на поўнае — улада цэнтральная.

Пазбаўлены на пэўны час правоў сябра ПБДА мае права ў працягу месяца абжалаваць пастанову мяйсцовай арганізацыі ў Цэнтральны Камітэт, які і вырашае тады аканчальна гэтую справу.

## Мяйсцовая арганізацыя.

7. Сябры ПБДА, якія пражываюць ў аднэй ці некалькіх суседніх вёсках, ствараюць партыйны Гурток. У вялікіх мястэчках і гарадох районныя гурткі ПБДА могуць лучыцца ў адзіную гарадскую арганізацыю ПБДА.

Аб стварэньні гуртка старшыня яго паведамляе Цэнтральны Камітэт.

8. Гурток выбірае свой Камітэт, складзены з трох асоб: старшыні, сэкрэтара і скарбніка. Камітэт выступае ад імя Гуртка, згодна з пастановамі Гуртка або згодна распараджэньняў вышэйшых партыйных уладаў.

9. Сходы Гуртка адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца з уласнай ініцыятывы Камітэту, на жаданьне трох сяброў Гуртка, або на жаданьне вышэйшай партыйнай улады.

10. Да кампэтэнцыі Гуртка належыць:

а) прыймо сяброў і пазбаўленьне іх правоў;

б) выбар дэлегатаў на партыйныя зьезды і Агульны Зьезд;

в) зьбіраньне складак, партыйных ахвяраў і падпіскі ад сяброў на газэту;

г) вызначэньне для Камітэту і паасобных сяброў Гуртка прац арганізацыйна-агітацыйных, асабліва-ж працы ў пашырэньні партыйных друкаў і ў знаходжаньні новых падпішчыкаў газэты;

д) прыйманьне справаздачаў аб дзеяльнасьці Камітэту і паасобных сяброў Гуртка;

е) вызначэньне кандыдатаў у гмінную раду, касу хворых, а таксама ў-ва ўсякія мяйсцовыя таварыствы прасьветныя, гаспадарчыя і грамадзкія;

ж) разважаньне над палітычнымі справамі і прыйманьне пастановаў як агульных, так і ў справах мяйсцовага характару.

11. Адказным перад партыяй за працу Гуртка зьяўляецца Камітэт Гуртка.

## Павятовая арганізацыя.

12. Сябры ПБДА, якія жывуць у адным павеце, складаюць арганізацыю ПБДА данага павету.

13. Сябры ПБДА зьбіраюцца ня меньш аднаго разу ў год на Павятовы зьезд.

14. Павятовы зьезд ПБДА склікаецца. Павятовым Камітэтам па:

а) пастанове Павятовага Камітэту;

б) жаданьню вышэйшай партыйнай улады;

в) жаданьню найменьш трох партыйных Гурткоў.

15. Павятовы зьезд

а) выбірае Павятовы Камітэт у складзе старшыні, сэкрэтара, скарбніка і па адным сябру Камітэта ад кожнага Гуртка;

б) прыймае справаздачу аб дзеяльнасьці Камітэту;

в) разважае справы палітычныя і выносіць у гэтых справах свае пастановы;

г) выбірае дэлегатаў на партыйны Агульны Зьезд.

16. Паседжаньні Павят. Камітэту вызначаюцца:

а) пастановай папярэдняга паседжаньня;

б) старшынёй Камітэту з уласнай ініцыятывы або на жаданьне двух сяброў Камітэту;

в) на жаданьню вышэйшай партыйнай улады.

17. Да абавязкаў Павятовага Камітэту належыць:

а) падгатоўка і скліканьне павятовых зьездаў;

б) кантраляваньне дзеяльнасьці мяйсцовых Гурткоў і прэзыдыуму Камітэту;

в). выконаваньне пастановаў зьездаў;

г) арганізаваньне мітынгаў і палітычных нарадаў, кіраваньне палітычнай акцыяй на абшарах павету ў мэтах паглыбеньня сьвядомасьці беларускіх сялянскіх і работніцкіх масаў і пашырэньня арганізацыі;

д) складаньне Цэнтральнаму Камітэту квартальных (4 разы ў год) справаздач аб партыйнай дзеяльнасьці, а таксама аб палітычным, культурным і гаспадарчым жыцьці ў павеце.

18. Пастановы Камітэту выконывае прэзідыум у складзе старшыні, сэкрэтара і скарбніка. Прэзідыум павінен утрымліваць сталую сувязь з Камітэтамі Гурткоў і з Цэнтральным Камітэтам. Прэзідыум выдаець сяброўскія білеты; кантралюе падпіску на газэту і сяброўскія складкі, а таксама кантралюе пашырэньне партыйных друкаў.

Адказным перад Цэнтральным Камітэтам за стан працы ў павеце зьяўляецца прэзідыум; прэзідыум падаець Цэнтральнаму Камітэту кожны месяц сьпіс усіх сяброў ПБДА ў павеце.

### Акружная арганізацыя.

19. Цэнтральны Камітэт, калі знойдзець патрэбным, стварае Акружныя Арганізацыі ПБДА, злучаючы ў іх па некалькі павятовых арганізацый.

### Агульны зьезд.

20. Найвышэйшай уладай ПБДА зьяўляецца Агульны Зьезд. Агульны Зьезд пастанаўляе аб усей палітычнай і арганізацыйнай дзеяльнасьці ПБДА, а таксама аб праграме, тактыцы і статуце, выбірае Цэнтральны Камітэт і Рэвізыйную Камісію ПБДА, а роўна прыймае ад іх справаздачу.

21. Агульны Зьезд складаецца з дэлегатаў, выбраных ад Гурткоў, а таксама на павятовых зьездах, і склікаецца Цэнтральным Камітэтам ня меньш аднаго разу ў год. На жаданьне наймены 3 арганізацый павятовых (зьездаў ці павятовых камітэтаў) Цэнтральны Камітэт павінен склікаць Агульны Зьезд у працягу трох месяцаў.

### Цэнтральны Камітэт.

22. Цэнтральны Камітэт кіруе дзеяльнасьцьцю Павятовых Камітэтаў і ўсіх іншых арганізацый ПБДА.

23. У выпадку пільнай патрэбы выявіць становішча ўсяе ПБДА ў паасобных справах, — Цэнтральны Камітэт склікае Раду ПБДА, складзеную з прадстаўнікоў Павятовых Камітэтаў і мужоў даверра.

24. Цэнтральны Камітэт складаецца з 11 сяброў і выбірае з-паміж сябе прэзыдыум у складзе 5 асоб, у гэтай лічбе старшыню, віцэ-старшыню, скарбніка, сэкрэтара і яго заступніка.

25. Паседжаньні Цэнтральнага Камітэту адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца старшынёю з яго ініцыятывы, па пастанове прэзыдыуму або на жаданьне трох сяброў Камітэту.

26. Для вядзеньня паасобных галін працы Цэнтральны Камітэт стварае аддзелы і выбірае з лічбы сяброў Камітэту кіраўнікоў гэтых аддзелаў.

27. Паседжаньні Прэзыдыуму Ц. К. адбываюцца раз у тыдзень. На свае паседжаньні Презыдыум мае права запрашаць кіраўнікоў паасобных аддзелаў.

### Рэвізыйная Камісыя.

28. Рэвізыйная Камісыя складаецца з трох сяброў і аднаго заступніка, якіх выбірае Агульны Зьезд ПБДА.

29. Рэвізыйная Камісыя спраўджае прыхода-расходную кнігу Цэнтр. Камітэту і робіць справаздачу на Агульным Зьездзе ПБДА.

### Фінансы ПБДА.

30. Фінансы ПБДА складаюцца:

а) з сяброўскіх складак;

б) са складак пасольскіх;

в) з даходаў ад прадажы партыйнае літэратуры;

г) з ахвяраў і даходаў надзвычайных.

31. Палова сяброўскіх складак застаецца ў арганізацыі мяйсцовай ці павятовай, другая-ж палова адсылаецца ў Цэнтральны Камітэт.

32. Павятовыя зьезды маюць права устанаўляць дадатковыя складкі на спэцыяльныя мэты.

### Пастановы.

33. Пастановы ўсіх партыйных уладаў і сабраньняў прыймаюцца звычайна

большасьцю галасоў. Пастановы-ж Агульнага Зьезду адносна праграмы, ці тактыкі або Статуту ПБДА вымагаюць большасьці 2/3 галасоў дэлегатаў, прысутных на Агальным Зьездзе.

**Часовыя правілы.**

34. Да часу сабраньня першага Агульнага Зьезду ПБДА Цэнтральны Камітэт выбіраецца Часовай Радаю, якую становіць ініцыатыўная група ПБДА.

35. У тых паветах, дзе яшчэ ня створаны мяйсцовыя Гурткі і ня выбраны яшчэ Павятовыя Камітэты, вядуць арганізацыйную працу мужы даверыя ПБДА, назначаныя Цэнтральным Камітэтам і перад ім адказныя.

Ініцыатыўная группа:

*Сэнатар В. Багдановіч.*
*Сэнатар А. Назарэўскі.*
*Пратаерэй Л. Голад.*

## Догматычныя падставы саборнасьці ў праваслаўнай царкве.

З дальшага працягу павестваваньня Дзеяпісацеля аб Апостальскім саборы выразна выяўляецца, што ў гэтым саборы прыймалі ўдзел ня толькі апосталы і прасвітары, але і прастыя члены царквы, ці як цяпер гавараць, міране і перш наперш вынавайцы смуты, старонькікі абрадавага Маісеявага закону. Да іх іменна, а не да каго другога зварачываўся ап. Пётр, калі гаварыў: „Пашто Вы цяпер **іскушаеце** Бога, жадаючы ўлажыць на плечы вучанікоў іга, каторага ня маглі нясьці ні айцы вашыя, ня вы (ст. 10). Гэтыя словы рашуча сьцьверджаюць, што на Апостальскім саборы былі прысутны зьвярнуўшыеся ад фарысэйскае ерэсі, бо інакш словы Апостала былі-б зварочаны ў пустое паветра.

Дальшы працяг павестваваньня бязумоўна сьцьверджае і тое, што на саборы была прысутна ня толькі аппазыцыя, складаючаяся з міранаў, але і ўся царква Ерусалімская і што гэтыя апошнія члены царквы былі ня толькі малчалівымі асыстэнтамі, але прыймалі дзейны удзел у вырашэньні пастаўленага пытаньня і выпрацаваньні самае фармулы саборнае пастановы. Дзеяпісацель выразна зазначае, што перад прамовай ап. Пятря мела месца доўгая нарада. Грэцкая мова, багатая формамі для выяўленьня тонкасьцяў думкі, болей ясна і канкрэтна выяўляе гэную думку. У грэцкай мове гэта месца перадаецца славамі: „полліс сізітісеос“ — „пасьля доўгае дыскусыі“—,каторае выразна падкрасьляе, што ў саборы прыймалі удзел дзьве або і болей стараны, бо бяз праціўных старон немагчыма ніякая дыскусыя. Такім спосабам, адзначэнная ап. Лукашом „соісканьне“ ня было аднастаронным актам адных апосталаў, але супольным доследам пытаньня ўсімі членамі сабору. Прыведзеныя далей Дзеяпісацелям падробнасьці яшчэ больш сьцьверджаюць гэную думку. Так, ён гаворыць, што пасьля прамовы ап. Пятра змоўкла ўсе сабраньне (ст. 12), значыць, да гэтага часу сабраньне гаварыла, **разважала**. Далей, зварот ап. Якава да сабраньня устанаўляе гэтае палажэньне, што яго прамова была адказам на пытаньні членаў сабору. У грэцкай мове перадаецца яна так: „апокріфі Яковос легон“, што даслоўна значыць: адказаў Якаў, гаворачы (ст. 13). Самы заклік апостала: „паслухайце“, паказуе, што увага сабраньня раскідалась размоваю, развагаю. Усе тыя дробныя рысы характэрны тым, што сьцьверджаюць безумоўна удзел міранаў у Апостальскім саборы.

У далейшым павестваваньні Дзеяпісацеля ёсьць выстарчаючыя доказы і таго, што міране прыймалі ўдзел ня толькі ў разважаньні пытаньня, але і ў апрацаваньні самае саборнае пастановы. 22 і 23 сьціхі гэтага павестваваньня не застаўляюць у гэтым ніякага сумленьня. У іх проста сьцьверджаецца, што пасьля прамовы ап. Якова „разважалі апо-

сталы, прэсвітэры **са ўсей царквой**". У грэцкай мове гэная думка яшчэ больш выразна акрэслена. Даслоўны пераклад грэцкага тэксту гаворыць: „тагды была пастаноўлена апосталамі, прасвітэрамі **саўмесна са ўсею царквою**"". Такім спосабам гэты сьціх рашуча устанаўляе, што законадаўчыя функцыі на Апостальскім саборы належалі не да аднае часткі царквы, хаця-бы і найгалаўнейшай, а да ўсей царквы ў поўным яе складзе. Аб гэтым-жа гаворыць і самая пастанова Апостальскага сабору да Антыяхійскае царквы, напісаная ад імя апосталаў, прасвітэраў і браціяў (23 сьц.).

Вышэй успамянуты еп. Міхаіл так тлумачыць гэныя сьціхі Дзеяў Апост.: „Тагды, пасьля папярэдніх разважаньняў павествааньняў Варнавы і Паўла і прамоў Пятра і Якава, рузсудзілі; тачней, вынясьлі пастанову; грэцкае слова, ўжытае ў гэтым выразе (эдоксэ) ужывалась толькі у фармальных пастановах сэнату, народных сабраньняў, судзебных прыгавараў і г. д. Разважаўшымі і прымаўшымі пастанову былі— па першае епіскапы, – па другое—прасвітары і па трэцяе, уся царква ў поўным складзе яе членаў" (стр. 360).

З гэтуль выяўляецца, што без староннiй аналіз гісторыі Апостальскага сабору пераконывае нас, што у ім прымалі рашучы удзел ува ўсіх яго пастановах ўсе прадстаўнікі царквы: епіспапы, прасвітары, міране і апошнія, як і першыя,— з правам рашучага голасу. — Для нас гэта асабліва важна, бо яно паказывае той шлях, па катораму ішлі апосталы у устроі Хрыстовай Царквы, выкановыючы і здзейсьняючы ў практыцы навуку Хрыста аб царкве, як апошнім Судзьдзі.

Калі сьв. Апосталы, безпасьрэднія слухачы Хрыстовае навукі, надзеляныя нязвычайнымі дарамі сьв. Духа, ў вырашэньні пытаньняў аб устрою ўнутранага жыцьця царквы знайшлі патрэбным зьвярнуцца да ўсей Царквы ў відзе царкоўнага сабору, дык безумоўна гэтым яны ўсказывалі норму, каторае Царква павінна трымацца у сваім унутраным устроі, і спосаб, якім яна павінна развязываць галаўнейшыя царкоўныя пытаньні. —Гэны і толькі гэны сабор павінен быць узнаны дагматычным прыкладам для ўсіх сабораў наступных часоў. Няхай гісторыя ведае саборы другога парадку. Як іх склад, дык і спосаб вырашэньня праз іх пытаньняў можна апраўдываць да пэўнае ступені гістарычнымі і другімі прычынамі. Але гэдакіх сабораў ніколі ня можна лічыць нормай, прыкладам для паступных сабораў.

Мы верым у апостальскую царкву, г. ё. у царкоўнае жыцьцё, у яе устрой, ускazаныя самімі апосталамі. А з гэтага вынікае, што прыклад апастольскага сабору з'яўляецца для нас абавязкавай нормай у царкоўным жыцьці. А гэты прыклад абавязкова вымагае, каб у складзе царкоўнага Сабору прымалі рашучы ўдзел ня толькі епіскапы, і сьвяшчэньнікі, але-ж і міране.

**Прат. Л. Голад.**

---

# Што трэба рабіць.

(Адказ п. Красоўскаму *).

Зьмест артыкулу п. Красоўскага можна падзеліць на дзеве часткі. У першай часьці ён імкнецца да высьветленьня прычынаў рэлігійнага падзелу беларускага народу і таго значэньня, якое, паводле поглядаў аўтара, павінна мець праваслаўнае і каталіцкае духавенства ў справе нацыянальнага беларускага адраджэньня. У другой—паважаны аўтар стараецца пераканаць у некарыснасьці для нацыянальнае справы стварэньня асобнай беларускай праваслаўнай группы. Разглядзімо яго доказы першага і апошняга палажэньняў.

Прычыну рэлігійнага падзелу бела-

*) Ад Рэдакцыі: Сярод водгукау на стацьцю п. Васілевіча: „Беларускія палітычныя группы", у большасьці сваей прыхільных да ідэі аутара, Рэдакцыя атрымала артыкул п. Красоускага: „У чым прычына". Хоць п. Красоускі у сваей стацьці праводзіць погляды і не зусім згодныя з поглядамі нашымі, аднак Рэдакцыя знайшла патрэбным зьмясьціць яе на старонках сваей часопісі, каб лепш высьвятліць справу з усіх бакоу. У гэтым нумары Рэдакцыя дае магчымасьць самаму п. Васілевічу адказаць п. Красоускаму.

рускага народу п. Красоўскі бачыць у „ўзаемнай барацьбе дзьвёх рэлігійных цэнтраў: Рыму і Візантыі, для якой беларускі народ стаў полем бітвы". Нельга не згадзіцца з гэтым аснаўным палажэньням п. Красоўскага. Праўда тое, што „беларускі народ апынуўся між гэтымі двумя ўзаемна-змагаючыміся сіламі". Але ці быў і ці мог беларускі народ аказацца тым мастом, на які, паводле поглядаў п. Красоўскага, павінны былі ўступіць гэтыя рэлігійныя канкурэнты і адыграць усесьветную роль аб'еднацеля гэтых дзьвух канкурэнтаў. П. Красоўскаму ведама, што прычына рэлігінай барацьбы Усходу і Заходу ляжыць вельмі глыбака,—у разнасьці складу самае культуры гэных двух канкурэнтаў, у разнасьці іх сьветапагляду і жыцьцёразуменьня.

Зусім іншая справа, каторая з гэтых дзьвюх культур больш адпаведае духу беларускага народа, яго гістарычным імкненьням і нацыянальным інтэрэсамі. Гэта справа настолькі паважная і настолькі глыбокая, што вырашыць яе так, „мімаходам", ня можна. На разе мы і не бярэмся яе рашаць, але ня можам і ня лічыцца з **гістарычным фактам** істнаваньня гэтых двух культураў і таго, што яны аставілі вельмі глыбокі сьлед у душы народа.

Пану Красоўскаму здаецца, што „поле бітвы" толькі ад таго і не ператварылася ў „мост", што на гэты мост шчыра ня ўступіла духавенства абодвюх старон. А гістарычныя факты паказываюць зусім іншае. Гісторыя нам сьведчыць, што заўсёды **гэныя „масты паміж Рымам і Візантыяй" будавала як ряз вышэйшая духавенства**, якая і гнала на гэты мост народ ці на той, ці на іншы бок. Больш таго! Мы павінны адзначыць, што можа каб у свой час не будавалі яны гэтых штучных мастоў бяз ведама і згоды самаго народу, дык ня было-б і таго рэлігійнага падзелу, які так цяжка адбіваецца на нашай нацыанальнай справе. Бо гэты паддел, які мы бачым, і ёсьць толькі кавалак таго „мосгу", які вышэйшае духавенства будавала ў 1596 г. ў Берасьці. Не пайшоў на гэты мост як раз **народ**, які паглядзеў на гэтую будоўлю, як **на здраду свайго нацыянальнага гістарычнага напрамку і сваей культуры.**

Калі паглядзець на гэты факт, так сказаць, з пункту гледжаньня філёсофска-гістарычнага, то гэта будзе зусім зразумела. Беларускі народ толькі тагды мог бы аказацца „мастом" для дзьвюх культур, дзьвёх розных сьветапаглядаў і жыцьцяразуменьняў, калі-б у час спатканьня на „поле бітвы" дзьвёх варожых культур, ён сам ужо ўладаў культурным разьвіцьцём значна вышэйшым. Тады ён мог-бы ўвабраць у сябе гэтыя дзьве культуры і стаць аб'яднаючым для іх цэнтрам. Аднак мы ведаем, што гэтага ня было і ня будзе, пакуль беларуская культура ня стане на тую высату, на якой яна зможа перапрацовываць у сябе чужыя культурныя ўплывы. Але-ж гэта—справа будучага, а мы гаворым аб сучасным мамэнце.

А ў сучасным мамэньце мы бачым як раз, што гэтыя дзьве рэлігійныя культуры астаюцца вельмі моцнымі фактарамі ў жыцьці народа. П. Красоўскі піша, што „ня ў лацініцы справа". Але-ж калі ініцыатары беларускай хадэцыі, якімі ў значнай долі была група беларускіх ксяндзоў, закладала гэтую партыю, то-жа-ж такі захавала ў ей лацініку. Чаму? Ясна, таму, каб захаваньнем сваіх рэлійна-культурных традыцыяў прыцягнуць да партыі каталіцкі элемэнт, бо каб яны гэтага не зрабілі, то на пэўна ня убачылі-б у сваей партыі можа і дзесятай долі беларусоў каталікоў, якіх яны цяпер маюць. Напэўна не пайшлі-б у яе каталікі і тагды, калі-б закладалі гэтую партыю праваслаўныя сьвяшчэньнікі, бо зусім слушна, што каталіцкія масы баяліся-б таго, ці няма тут якога „маста" да праваславія.

Вось з гэтай псіхалёгіяй рэлігійных масаў мы і лічымся і ня можам ня лічыцца, бо і самі стаім на рэлігійных падставах і ўважаем нават гэтыя падставы за мацнейшыя палітычных. Лічымся і з псіхалогіяй духавенства таго і другога вызнаньня, якім таксама рэлігійная справа **павінна** быць даражэй і палітычнай і нацыанальнай.

П. Красоўскі зусім слушна адзначае што рэлігійны падзел беларускага народу падтрымліваецца рожнымі імкненьнямі і каталіцкага і праваслаўнага духавенства: „адны цягнуць до „единой недѣлимой", другія до „panstwa od morza do morza".

Але ці падумаў п. Красоўскі аб

тым, што можа каталіцкая духавенства дзеля таго і старалася аб паланізацыі беларускага народу, што **ў гэтым адным** бачыла магчымасьць захаваньня сваей паствы ў каталіцкай рэлігіі. Гэтымі-ж прычынамі да пэўнай ступені можна аб'ясьніць і палітычныя імкненьні часткі праваслаўнага духавенства да „единой недѣлімой".

Вось мы стварэньням беларускай праваслаўнай партыі і імкнемся да таго, каб зьнічтожыць магчымасьць перашкаджаньня нашай нацыянальна-палітычнай справе з боку ўплываў рэлігійных. Лепш нам сядзець на розных рэлігійных вазох але ехаць адным нацыанальным шляхам, бо на адным вазу мы можам і пасварыцца.

Паўтараю, што мы ня думаем аб ніякай рэлігійнай канкурэнцыі ні тым больш аб палітычным падзеле беларускага народа (рэлігійны падзел ужо ёсьць і ёсьць як рэзультат рэлігійных „мастоў"); мы проста запрагаем свой воз і едзем у тую самую старонку.

**В. Васілевіч.**

# Праваслаўная царква ў Латвіі.

Па рэлігійным вызнаньням насяленьне Латвіі дзеліцца так:

| | |
|---|---|
| Ев.-лютэранаў . . . | 1.055.167 |
| Р.-каталікоў . . . . | 416.769 |
| Праваслаўных . . . | 167.538 |
| Стараабрадцаў . . . | 89.239 |
| Пратэстантаў . . . | 15.652 |
| Іншых вызн. . . . | 4.707 |
| Усяго. . . | 1.844.805 |

Гэтакім чынам праваславіе ў Латвіі займае па лічбе трэцьцяе мейсца і складае 9 проц. усяго насяленьня.

Па нацыянальнасьці галоўную часьць (больш паловы) праваслаўных складаюць расейцы. Далей ідуць латышы і беларусы. На гэтую лічбу праваслаўных у Латвіі лічыцца 140 прыходаў, каля паловы якіх лічуцца латыскімі ці зьмешанымі. У латыскіх богаслужэньне і пропаведзь ідзе на латыскай мове, у зьмешаных—па чарадзе: то на латыскай, то на царкоўна-славянскай. Рэшта — на славянскай.

У Рыскім саборы служба служыцца папераменна то на царкоўна-славянскай мове, то на латыскай.

Уся Латвія з царкоўнага погляду прадстаўляе адну епархію, якая стала ў адносінах да Расейскай Царквы на падставах аўтаноміі. У галаве Латвійскай Эпархіі стаіць Архіепіскоп Іоанн. Родам ён латыш, добра ведае латыскую мову і часта сам на гэтай мове служыць. Вучыўся ён у Рыскай Сэмінарыі і ў Кіеўскай акадэміі. У г. г. 1907—12 ён быў рэктарам сэмінарыі ў Вільні, дзеля чаго добра памятны духавенству Літоўскай (Віленскай) Эпархіі. У Рыгу ён быў назначаны праз патрыярха Ціхана пасьля таго, як быў выбраны эпархіяльным зьездам усей Рыскай эпархіи. Перад назначэньнем у Рыгу ён быў епіскапам у Пензе, гдзе быў праз бальшавікоў засуджаны ў турму і нават прысуджаны на сьмерць. Вызваліўся толькі дзякуючы таму, што заявіў сябе латыскім подданым.

Гэта чалавек безумоўна выдатны па сіле духоўнай, а нават і фізычнай *). За шэсьць гадоў свайго кіраваньня латвійскай праваслаўнай царквой ён пасьпеў прывесьці царкоўнае жыцьцё да поўнага парадку. У пачатку, пасьля стварэньня Латыскай Рэспублікі ў Латвіі, як і ў судах, дзе працавалі езуіцкія арганізацыі, паднялося перась-

*) Пра яго фізычную сілу ў Рызі ходзіць такі астатні анегдот. Прывязлі ў сабор новы звон у 10 пуд. весам. Владыка з эканомам і сторажам выйшлі паглядзець, каб рашыць, якім спосабам яго ўзнесьць на званьніцу. Эканом пайшоў шукаць майстраў. Прыходзіць: няма ні звана, ні ўладыкі. Аказалася, што пакуль ен хадзіў, дык уладыка ўзваліў звон на плечы і ўзнес адзін на званьніцу.

ледаваньне праваслаўнай царквы, адбіраньня царкоўных будынкаў, зямель, сьвятынь. Перад самым нават прыездам уладыкі з СССР быў езуітамі захоплены архіерэйскі дом. Уладыка пасяліўся у сырым і паўцемным падвале пад саборам, дзе жыве адзін, нават без келейніка, дзе прыймае і ўсіх высокіх асоб, прадстаўнікоў ураду і інастранных дзяржаў, якія прыежджаюць да яго з візытамі і сам ім адчыняе дзьверы. Урад ужо гатоў быў даць яму другі дом для кватэры, каб толькі не было той ганьбы, што вядомы ўсюды за граніцай праваслаўны архіерей павінен жыць у такіх варунках. Але уладыка не бярэ: „чужога мне ня трэба; няхай будзе аддадзена тое, што, паводле праў, належыць да царквы". На рэшце яму ўжо зьвярнулі частку архіерэйскай дачы каля Рыгі, дзе ён і жыве ў летку.

Зусім раўнадушны да свайго асабістага жыцьця, уладыка горача бароніць праваслаўныя парахвіі і царкоўныя будынкі і ўжо многа адабраных вернута назад. У самай Рызе такім чынам ужо стварылася 10 прыходаў з ўласнымі царквамі і адзін манастыр.

Пасярод Рыгі на самай галоўнай вуліцы стаіць вялізарны і прыгожы праваслаўны Сабор. На яго званіцах гудзіць ужо 13 званоў найвялікшы, з якіх важыць больш 500 пудоў *).

У устроі праваслаўнай царквы ўладыка Іоан строга трымаецца падстаў саборнасьці. Усюды у яго заведзены прыходскіе саветы, штогодна зьбіраюцца благачыньніцкія і эпархіальныя сабраньні. Усюды відаць добрыя царкоўныя арганізацыі.

У прошлым годзе арх. Іоан быў выбраны праз праваслаўнае насяленьне ў Латвійзкі Сойм, чым яшчэ больш падняў свой аўтарытэт у Латвіі. Яго знамянітая прамова ў Сойме 3 чэрвеня 1926 г. зрабіла ўражэньне і хутка падзьвінула справу упарадкаваньня там палажэньня праваслаўнай царквы. У прошлым годзе там быў праведзены ўставодаўчым парадкам закон, акрэсьліваючы гэнае палажэньне з праўнага боку і атрыманы дазвол на адчыненьне праваслаўнай сэмінарыі, якая ўжо пачала там істнаваць.

Дзякуючы сваей працы, Уладыка Іоанн карыстаецца вялікім даверыем і папулярнасьцю сярод праваслаўных масаў Латвіі. **В. Багдановіч.**

*) Вялікія званы Уладыка выпісываў з Нямеччыны, гдзе пачалі адліваць царкоўныя званы с т а л е в ы я. Гук у іх зусім ня горшы масяндзовых (медных), толькі троху карацей (ня так доўга гудзіць).

# Праваслаўны Сабор у Беластоку.

(Ад нашага ўласнага карэспандэнта).

У Беластоку яшчэ перад вайной пачалі будаваць вялізарны праваслаўны сабор. Срэдствы на яго будоўлю зьбіраліся па ўсіх праваслаўных парахвіях цэлай эпархіі, зьбіралі некалькі гадоў па грашах і пахкапейках.

Вайна перашкодзіла скончыць пастройку, і сабор ужо выведзяны да самых купалаў і пакрыты, так і астаўся стаяць бяз вакон і бяз дзьвярэй.

Пасьля вайны праваслаўнае насяленьне прынялося было горача і шчыра за справу заканьчэньня будоўлі, але неспадзевана (тады гэта яшчэ было неспадзевана, а цяпер мы ўжо прывыклі), неспадзевапа спаткалася з проціўдзейнасьцяй мясцовай улады, якая не дала дазволу на даканчэньне сабору. Повадам да гэтага выставілі тоя, што сабор, нібы будаваўся на казённыя срэдствы, што ён знаходзіцца на мястовай зямлі і што дзеля гэтага (па якім законам?) яго трэба ці зьнясьці зусім, ці перарабіць на касьцёл...

Напрасна прадстаўлялі начальству дакумэнтальныя довады таго, што сабор будаваўся на сборы з праваслаўнага насяленьня (усі нават пратаколы цар-

коўных кружачных збораў захаваліся дасюль),—нічога не памагала. Здавалася, другі раз, што ўлады прыймалі просьбы шчыра да сэрца, а як даходзіла да самой справы, дык ні шагу,—як бы нейкая патаемная сіла яе гамавала.

Калі сабраўся Сойм, у нас ізноў падняліся надзеі. Езьдзілі, прасілі. Узяліся горача за справу некаторыя паслы і сэнатары, прыежджалі да нас, хадзілі да ваяводы, да міністраў, падавалі унёскі, інтэрпеляцыі. Адзін раз было ўжо так, што, здавалася, справа зусім наладзілася: міністар Гломбінскі з сэймовай трыбуны урачыста асьведчыў, што сабор будзе аддадзены праваслаўным, але...

Калі на радасьцях праваслаўныя авансам прасілі, каб ім дазволена было ў тую Пасху, адслужыць у недакончаным саборэ пасхальную заутрэню, бо існуючая другая праваслаўнаа царква ў Беластоку ня можа ўмясьціць усіх маляшчыхся ня толькі у вялікія, але ў звычайныя сьвяты (у нашай беластоцкай парахвіі больш 6.000 душ),—дык і гэтага нам не дазволілі.

Цяпер праваслаўныя жыхары Беластоку, ходзячы па яго вуліцах, з сумам глядзяць на тое як пляц каля недабудованага сабору перарабіўся ў „свалачнае мейсца", а на даху сабора... вырасьлі ўжо 10-летнія бярозкі з Бог ведае адкуль занесеных насеньняў, а каля галоўнага купала ...чырванела сваімі прыгожымі гроздамі рабіна!...

§§ III—116 Польскай Рэспублікі гварантуе нам...

Відаць нам, праваслаўным гварантуе слаба!

**Аргус.**

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

Як павядамляе газэта „За Свободу" м. Дыанісій атрымаў наступны ліст ад м. Сергія наступнага зьместу:

### Ліст мітрап. Сергія да мітрап. Дыанісія.

Высокопреосьвященнейшый Ўладыка! „У маі гэтаго году",—піша мітрап. Сергій,—„каля мяне, як заступніка патрыаршага месцаблюсьціцяля, зарганізаваўся тымчасовы (аж да часу выбараў сталага складу на паместным сабору) патрыаршы Сьвяшчэн. Сынод, каторый у гэты час аффіцыяльна, з дазволу грамадзянскае ўлады, прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў. Пасярод пытаньняў, чакаючых сынадальнага развважаньня, знаходзіцца паміж іншым, і пытаньне аб адносінах узглаўляемае Вашым высокопрэосьвяшчэнствам праваслаўнае царквы ў Польшчы да яе маткі-царквы Усерасейскай. Паводле ведамасьцяў, атрыманых праз нас, нябошчыкам Сьвяцейшым патрыархам Ціханам благаслаўлена толькі аўтаномія царквы ў Польшчы пад агульнай юрысдыкцыяй Сьвяцейшага патрыарха Маскоўскага, пытаньне-ж аб аўтакефаліі, на каторую выявіў прэтэнзыі ваш папярэднік, нябошчык мітрапаліт Юры, была прызнана падлежачым развязаньню найбліжшага паместнага сабору Ўсерасейскага. Між тым, лісты вашага прэасьвяшчэнства на маё імя, як бы даюць зразумець, што вы лічыце сябе галавою царквы ўжо аўтакефальнае і глядзіце на царкву Маскоўскага патрыархата, як на раўнапраўную царкву-сястру, а ня як на цэлае, да каторага прадаўжае належыць (хаця із асобнымі правамы) і царква ў Польшчы і главу каторага павінны ўспамінаць за царкоўнамі службамі, як свайго „першага епіскапа", як прынамсі асабіста ваша высокапрэасьвяшчэнства (15 пр. Двукр. Сабора).

Для ўнікненьня якіх нябудзь непаразуменьняў пры разгледжаньні гэтага важнага пытаньня ў Сынодзе, прашу Ваше высокапрэасьвяшчэнства ўшанаваць мяне ў магчыма бліжайшэй буду-

чыне паведамленьням: 1) ці праўдзіва предпалажэньне, што праваслаўная царква ў Польшчы лічыць сябе аўтакефальнай, і калі праўда, 2) ці ёсьць на гэту аўтакефалію благаславеньня законнага главы Ўсейрасійскай царквы (у той лічбе і часткі яе, адашэдшай да Польшчы) – Сьвяцейшага патрыарха маскоўскага, ці яго месцаблюсьціцеля; калі-ж такога благаславеньня няма, 3) то якімі кананічнымі падставамі кіравалася ўзглаўляемая вашым высокапрэасьвяшчэнствам **і е р а р х ы я**, агалошываючы аўтакефалію, і 4) ці ня знаходзіце вы дабрачасным, пры ўзнавеньні цяпер адносін з патрыархіей, узнавіць і вашу кананічную залежнасьць ад яе (на падставах аўтаноміі).

Вашага высокапрэасьвяшчэнства пакорнейшы слуга.

**(—) Сергій, м. Ніжагародскі.**

### Прынцыповае вырашэньне Найвышэйшага Суда

Па загаду каталіцкага ксендза ў аднэй з праваслаўных парахвіяў на Падляшу быў канфіскаваны будаўляны матэрыял, належачы да праваслаўнае парахвіі. Парахвіяне ня дапусьцілі, каб ксёндз вывез матэр'ял, за што былі пацягнуты да судовае адказнасьці і засуджаны першай і другой інстанцыямі да турмы за самаупраўства.

Найвышэйшы Суд адмяніў прыгавар і раз'ясьніў, што для таго, каб даказаць, што са стараны абвінавачаных была самаўпраўства, патрэбна даказаць, у чыім фактычным ўладаньні быў гэты матарыял. А дзеля таго, што матарыял быў у фактычным ўладаньні праваслаўнае парахвіі, Найвышэйшы Суд адменіў прысуд нізшых інстанцыяў і абвінавачаных апраўдаў.

### Мітрапаліт Антоні ў Польшчу ня едзе.

Мітрапаліт Антоні паведаміў аднаго за сваіх быўшых вучанікоў, каторый займае віднае становішча ў дахоўнанауковых кругох у Варшаве, што ён у Польшчу ня прыедзе

## Палітычная хроніка.

**— Сазыў сэсыі Сойму і Сэнату.** Сойм і Сэнат, зачыняныя пасьля месячнага адкладу надзвычайнае сэсіі, цяпер дэкрэтам п. Прэзыдэнта сазываюцца на звычайную сэсію на 31 кастрычніка.

**— Польска-літоўскія адносіны.** Як ведама, польскія газэты падняли „алярм“ аб уціску польскага школьніцтва ў Літве. У сувязі з гэтым, як быццам адказ на літоўскі тэрор адносна палякаў у Літве, польскія ўлады на Віленшчыне арыштавалі літоўскіх ксяндзоў і грамадзкіх дзеячаў і зачынілі літоўскія школы.

Замежныя газэты, зьмяшчаючы весткі аб польска-літоўскіх справах, пішуць, што справа з польскім школьніцтвам у Літве, прадстаўляецца гэтак:

Пачынаючы з 1922 году, у Літве на вучыцельскія пасады зацьверджаліся асобы, якія ня мелі вучыцельскіх кваліфікацыяў пры ўмове, што за пэўны час, яны патрэбныя кваліфікацыі здабудуць. У 1926 годзе было дазволена 86 Палякам быць вучыцелямі пры ўмове, што да жніўня г. г. яны здабудуць вучыцельскія кваліфікацыі. З іх 86 чалавек кваліфікацыяў не здабылі, а дзеля гэтага былі звольнены з пасадаў. Падобныя меры прыменяюцца ня толькі для вучыцялёў Палякаў, але-ж таксама для вучыцялёў Літвіноў, так напр.: у 1926 годзе было звольнена 250 чалавек вучыцялёў Літвіноў, а сёлета, 220 чалавек, якія не здабылі ў вызначаным часе вучыцельскія кваліфікацыі.

**— Зварот Літвы да Лігі Нацыяў.** Літоўскі ўрад, як пішуць польскія газэты, падаў заяву да Лігі Нацыяў, у якой пералічыўшы усе рэпрэсыі ў адносінах да Літвіноў, як зачыненьне вучыцельскае сэмінарыі 45 народных школаў, арышты 120 Літвіноў-ксяндзоў і вучыцялёў, просіць прыняць меры аба-

роны нацыянальных меншасьцяў згодна дагавору 28 чэрвеня 1919 г., падпісанага Польшаю.

— **Грашавая пазычка Польшчы.** 12 г. кастрычніка міністар польскіх фінансаў п. Чэховіч і прадстаўнікі амэрыканскіх банкаў Монет і Фішэр падпісалі контракт. Згодна гэтага кантракту амэрыканскія банкіры пазычаюць польскаму ўраду 72 мільёны даляраў.

Умову аб пазычцы Сойм зацьвярджаць ня будзе. Пан Прэзыдэнт зацьвердзіць яе сваім дэкрэтам.

Поводле пазычковага дагавору, у Варшаву прыезджае спэцыяльны кантралёр ад кансорцыуму, які пазычае грошы Польшчы. Гэтакім кантралёрам, як паведамляе преса, будзе кіраўнік аддзелу ў міністэрстве скарбу ў Вашынгтоне п. Дзьювэй. Пэнсыя яму будзе выдавана 1509—2000 доляраў у месяц. У гутарцы з карэспандэнтамі нямецкіх газэтаў віцэ-дырэктар Польскага Банку заявіў, што кантралер будзе ў Польшчы у працягу 3 гадоў.

— **Адказ у легалізацыі.** Міністэрства Унутраніх справаў адмовіла у легалізацыі „Беларускага Таварыства Літэратараў і Артыстаў Заходняе Беларусі" і „Саюзу беларускіх вучыцялёў".

— **Ня мажлівы факт** 14 кастрычніка з наказу судовые ўлады да Вільні быў перавезяны дырэктар Віленскае Беларускае гімназіі гр. Астроўскі які, як ведама, у студні г. году быў арыштованы ў справе „Грамады" і пасаджаны ў вастрог у Вронках. Прывязлі яго на судовую справу з ведамым польскім эндэкам Студніцкім, за тое, што ня дапусьціў п. Студніцкага захапіць памешканьне Беларускае гімназіі. Са станцыі вялі гр. Астроўскага скаванага у ланцугі разам з нейкім угалоўным праступнікам. Гэтакі зьдзек над адным з паважнейшых культурных дзеячаў беларускага народу зрабіў вялікае ўражаньня ня толькі сярод Беларусаў, але вызваў абураныя водгукі і сярод польскае прэсы, якая асудзіла падобныя адносіны паліцыйнае ўлады да знанага Беларускага культурнага дзеяча. Пасол Беларускага Пасольскага Клюбу Ф. Ярэміч зрабіў інтэрвэнцыю ў ваяводзкіх уладаў і запратэставаў проціў гэтакага зневажаючага абыхаджэньня з гр. Астроўскім.

— **Арышты ў Горадні.** У сувязі з параскіданымі ў Горадні камуністычнымі адозвамі адбыліся арышты сярод кандыдатаў з работніцкага сьпіску да месцовай Рады. Арыштаваны адзін радны і 4 кандыдаты, якіх улада вінаваціць у прынадлежнасьці да камуністычнае партыі. Адзін радны з гэтага сьпіску, спалохаўшыся, адрокся ад мандату на раднага, ды заявіў, што ён вяртаецца да клерыкальнага прафэсыянальнага саюзу.

— **Француска-Савецкія адносіны.** Савецкая ўлада шукаючы грашэй на адбудову здабыткаў рэвалюцыі, вяла ў гэткай мэце перагаворы з Францускай уладай аб упарадкаваньні адносінаў паміж гэтымі ўрадамі. З боку Савецкага ўраду вёў перагаворы пасол ўва Францыі Ракоўскі. Францыя дабівалася ад Саветаў прызнаньня даваенных даўгоў. Калі здавалася, што справа надходзіць да памыснага для абедзьвіх старон заканчэньня, сам пас. Ракоўскі папсаваў усю справу, падпісаўшы з іншымі камуністамі адозву да францускай арміі, у якой заклікаў ня слухаць свайго ўраду, ды хутчэй рабіць рэвалюцыю. Францускі ўрад, даз-наўшыся аб гэтым, патрэбаваў замяніць Ракоўскага на становішчы пасла іншаю асобаю. Пасьля доўгае спрэчкі Саветы змушаны былі адазваць Ракоўскага, каторы выехаў да Масквы, а на яго мейсца паслалі быўшага пасла ў Японіі Доўгалеўскага.

Францыя паставіла варункі для Доўгалеўскага, каб ён ні ў якім разе ня ўмешаваўся ў унутраньнія справы Францыі.

— **Забастовка у Нямеччыне.** У Нямеччыне распачалася забастоўка вуглякопаў. Прычынай забастоўкі нізкая плата. З усіх 24 катэгорыяў работнікаў вуглякопы зарабляюць меньш ад усіх, ня гледзячы на тое, што іх праца вельмі цяжкая. Вуглякопы маюць надзею, што дабьюцца сваёй мэты—падвышкі заработнае платы. Цяпер паведамляюць, што у справу умяшаўся ўрад, які праз камеру згоды вырашыў, што вуглякопы атрымаюць падвышку платы 60 пфэнігаў на дзень.

— **Працэс Швацбарда.** У Парыжы ідзе галасная судовая справа аб забойстве украінскага атамана Пятлюры, якога забіў жыд Шварцбард. Свой злачын Шварцбард тлумачыць помстаю за па-

громы жыдоў на Ўкраіне за часоў атаманства Пятлюры.

Працэс выклікаў вялікую зацікаўленасьць, асабліва сярод жыдоў і ўкраінцаў. На расправу вызвана болей 100 сьведкаў з абыдвюх старон. Аднак ёсьць ведамасьці, што расправа поводле згоды абыдвюх старон будзе скарочана. Агенства Гаваса перадае, што Шварцбард апраўдан судом.

**— Убійства Албанскага пасла ў Празе.** 14.X У Празе выстраламі з рэвальвэру албанскі студэнт А. Бабі забіў албанскага пасла Цэна-Бега.

**— Савецкая амнэстыя.** Замэжныя газэты пішуць, што савецкі ўрад у сувязі з дзесятымі ўгодкамі істнаваньня савецкае ўлады, мае выдаць дэкрэт аб амнэстыі. Згодна таго дэкрэту ўсе расейскія грамадзяне, якія ўцяклі ад рэвалюцыі за граніцу, могуць вярнуцца дамоў калі дадуць пісьменнае забавязаньне аб тым, што прызнаюць савецкую ўладу і будуць лояльна працаваць для савецкае дзяржавы.

На тых самых умовах будуць выпушчаны з вастрогаў сябры расейскіх сацыял - рэвалюцыянэраў і сацыял - дэмакратаў.

**— У Эстоніі.** У Эстоніі ўводзіцца дванаццацімесячная вайсковая служба ў пяхоце, кавалеры і артылерыі, а у флёце і тэхнічных фарміраваньнях па 18 мес. Ад зьмяншэньня часу службы ў войску, зьменшацца расходы на войска на 100 мільёнаў эстонскіх марак.

**— 10-ці гадовы юбілей беларускае сярэдняе школы.** 1 лістапада канчаецца 10 гадоў істнаваньня беларускае сярэдняе школы.

Першая беларуская гімназія адчынена была ў г. Слуцку ў 1917 г.

З гэтага поваду ў Беларускай Віленскай Гімназіі 1 лістапада адбудзецца ўрачыстае сьвяткаваньне.

## ЗЬМЕСТ.




Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.